# АНЕКДОЦІК
# У РОЦІК

Смяшынкі,
жартоўкі,
анекдоткі,
досціпы
ў запісах
і апрацоўцы
Уладзіміра
Содаля
і яго ўнучка
Сержыка

Мінск
"Кнігазбор"
2008



Несцерка з хатулём жартаў.
*Малюнак вучаніцы 8 "б" класа СШ № 218 Лілії Гарнашэвіч*

Некалі першы наш народны паэт Ф. Багушэвіч — ён жа Мацей Бурачок і Сымон Рэўка з-пад Барысава — прароча сказаў: «Той люд жыве, што свае песні мае!» Перафразуючы гэты крылаты паэтаў афарызм, з такой жа пэўнасцю можна сказаць: «Той люд жыве, што свой гумар мае». Гумар — лекар. Ён адначасова і барометр духу нацыі. Без гумару наша жыццё было б шэрае, невыразнае, панылае. Мабыць, таму гумар у нашым народзе ніколі не зводзіўся. Беларускія фальклярысты запісалі і выдалі тысячы розных жартаў, гумарэсак, анекдотак. Маем мы і свой гумарыстычны часопіс «Вожык». Ды амаль усе нашы перыядычныя выданні друкуюць вясёлыя карацелькі. Прыкладам, газета «Звязда» мае сталы гумарыстычны куточак — «Усміхнёмся».

З году ў год згаданыя выданні публікуюць народныя досціпы, анекдоткі, жартоўкі, смяшынкі, пацешкі... А ім канца няма! От і мне з сваім унучкам пашчасціла вылушчыць з жывой мовы не адну сотню залацінак, вартых увагі нашага духу, нашага менталітэту, якія мы прапануем вам.

Адметнасць гэтай кніжачкі менавіта ў тым, што яе мы рыхтавалі ўдвух з сваім унучкам. Ён яе першапачаткова і на камп'ютары набіраў, і шмат якія смяшынкі прапанаваў: свае і падслуханыя. У яго добра развітае пачуццё гумару. Ён умее дасціпна абыграць шматзначнасць любога слова. От неяк раз нехта з блізкіх родзічаў пытаецца ў яго, а ці будзе ён, Сержык, бабку есці. І Сержык тут жа імгненна рэагуе:

— Вы што?! Я ж не канібал!

Сержыкавы смяшынкі, досціпы вы можаце пазнаць па іх стылістыцы і тэматыцы: школа, камп'ютар... Ён і тэарэтычна ў жанрах гумару больш-менш падрыхтаваны, дасведчаны. Выразна адчувае розніцу між смяшынкай, пацешкай і досціпам. Досціп, на яго думку, — гэта вынік вытанчанай праявы, аналізу чалавечага розуму. Досціпы нікога не крыўдзяць, не зневажаюць. Неяк я прапанаваў Сержыку зарыфмаваць свае назіранні пра гумар, балазе ў яго такая практыка ёсць.

Амаль усе школьныя сачыненні, водгукі піша вершам. І от што ў яго атрымалася:

*У духоўным жыцці чалавека*
*Між шматлікіх і розных праяў*
*Гумар з яго нараджэння спрадвеку*
*Першае месца заняў.*
*Анекдоткі, досціпы, смяшынкі,*
*Пацешкі, гумарэскі, жартоўкі...*
*Усе яны з скарбу народнай кладоўкі,*
*У іх з нашай мовы лепшыя слоўкі.*
*Мацюкі калечаць, гумар палечыць!*
*Смяяцца — духоўна развівацца!*
*Смяшынкі для здароўя — як аскарбінкі.*
*Дык давайце ж па-беларуску смяяцца!*

Дык смейцеся на здароўе! Смейцеся разам, дружна. Хай жа родзяцца і не зводзяцца з нашай зямлі жартуны, смехуны, дасціпныя на слова людзі, нашы Несцеркі і іхнія шэсцеркі. Трапны, дасціпны анекдоцік — гэта як цукерка ў роцік.



## ЦІ НЕ ПОДМАЗКУ З'ЕЎ?

Так кажуць на Беларусі пра таго, на каго без дай прычыны і нечакана находзіць смех. Каб зразумець сэнс гэтай помаўкі, трэба прыгадаць, што такое подмазка. Мо цяпер і не ўсе чулі, што гэта за слова такое.

Подмазка — гэта пратлушчаная анучка, якой падмазваюць патэльню, калі пякуць бліны, каб яны не прыгаралі, каб адставалі ад патэльні.

І напраўду, ці ж гэта не смешна: з'есці пратлушчаную анучку?! Трэба ж такім неперабoрлівым быць: пракаўтнуць кавалачак тканіны! Гэта ж толькі воўк можа глытаць, не разбіраючыся, што спажывае. А тут чалавек подмазку з'еў! Вось ляжыць гэтая подмазка ў страўніку чалавека, страўнік перакідвае яе ў сваёй вантробе, не раўнуючы як пральная машына вопратку, калі мые, не можа ніяк яе пераварыць, — і казыча небараку вантробы, а ён ад казыткі гэтай заходзіцца, смяецца: ведама, подмазку з'еў!



## РАЗМОВА З АГАРОДАМ

У адной дачніцы-ўдачніцы надта добра ўсё радзіла ў агародзе. Аднаго разу суседка пацікавілася:

— Тэклечка, што ты такое робіш, што ў цябе ўсё так расце, буяе, лапушыцца?

— А нічога. Як і ўсе. Капаю, рыхлю, трохі гною даю. Палю, паліваю. А яшчэ я кожную раніцу вітаюся з агародам. Пакланюся яму і кажу: «Добры дзень, пан-агарод,

радзі ўсім на ўвесь год! Добры дзень, памідоры-сеньёры! Вітаю і цябе, гарох, няхай дапаможа табе Бог! І вы, ваяры-агуркі, каб раслі вялікія, як пацукі! Тое ж і вам, бурачкі-мацачкі!..» От так з кожнай раслінкай пагаманю, пахвалю, таму яны і растуць у мяне такія буйныя ды сакаўныя!



## ЛЮБА

Чаго толькі на свеце не бывае: і карова лятае, і аднаго хлопчыка Любай празвалі... А Люба — гэта, як вядома, дзявочае імя. Але ў нас, як ні дзіўна, Любай завуць хлопчыка. А чаму? Як толькі што, дык: Люба тое, Люба гэтае, Люба туды, Люба сюды. І ён не вельмі крыўдзіцца, звыкся з гэтым сваім імем. Бывае, праўда, калі слабейшы яго так назаве, дык гыркне, агрызнецца. І настаўнікі ведаюць таго Любу, але так яго не клічуць. На ўроках бывае, што настаўнік кажа: «Ну, хто ў нас самы смелы, хто пойдзе да дошкі?» І з апошняй парты чуецца: «Люба-а-а!»

Дык адкуль жа тая Люба? Імя таго хлопчыка — Павел, а прозвішча яго — Любачка. Як толькі не кпілі з гэтага прозвішча! Можна было пачуць і Лю-бочка, і Люб-ачко, і Любава, і нават Любаба. Вось які казус з такім, здавалася б, мілагучным прозвішчам: Любачка, але ніхто гэтага Любачку чамусь не любіць...



## НА БЕЛАРУСІ БОГ ЖЫВЕ

На адной дыскусіі пра тое, хто ў што верыць, я меў афарыстычна сказаць:

— Веру самому сабе і Беларусі. Такое крэда спрыяе мне годна жыць, пачуваць сябе цэласнай асобай...

Нехта кінуў:

— А Богу верыш?

— Веру! Беларусь і ёсць мой Бог. Нездарма ж наш паэт сказаў: «На Беларусі Бог жыве».



## ЛЮБІЦЬ? А ЗА ШТО?

— А ўсё ж не любіце вы рускіх, — неяк раз дэклаправала мне адна расіянка, якая натрывала ўсталявалася жыць у Беларусі.

— Я не люблю рускіх?! З чаго гэта вы ўзялі? Як я не магу любіць Дабралюбава, які калісь казаў: «Цэлы край узялі ды забілі! Як бы не так! Паглядзім, што яшчэ скажуць беларусы!..» А Максім Горкі, які ў цяжкія, бяспраўныя для Беларусі часіны пісаў: «Звяртаю ўвагу скептыкаў на работу людзей, што згуртаваліся вакол газеты «Наша Ніва». Дык як мне не любіць такіх рускіх, якія спагадаюць беларускаму народу, спрыяюць яму? Рабіце гэта і вы — і мы вас будзем любіць. Спазнайце нашу культуру, мову, нашу спадчыну, як мы вашу, — і мы будзем на роўных.



## ПРАГУЧАЎ ЗВОН, ДЫ НЕ ТАК ПАЧУЎСЯ ЁН

Залётны госць з суседняй краіны, жадаючы зрабіць што-кольвек прыемнае для браткоў-беларусаў, наважыўся завяршыць сваё слоўка па-беларуску. Круцілася сказаць: «Плёну вам!» А вырвалася: «Плюну вам!»

О, Божа праведны!



## МНЕ НЕ ГЭТА

Суседскі сын прывёз з Расіі маладую жоначку. Суседцы ж надта закарцела паглядзець на тую жоначку зблізку. Прыдумала і прычыну, каб зайсці. Дома якраз была толькі нявестка. Дык суседка і просіць:

— Мне, калі ласка, праніка пазычце.

— Сейчас, сейчас, — заспяшалася нявестка і вынесла з кухні якісь папяровы кулёк. — Вот, пожалуйста, извините. Совсем немного осталось. Вчера вечером почти всё съели.

— Дык гэта ж пернікі вы мне прынеслі! А я прасіла праніка. Мне бялізну праць!..



## КУРКА

— Ты польскую мову ведаеш?
— Крыху ведаю.
— То як па-польску будзе «дачка»?
— Здаецца, курка!
— Якая табе яшчэ курка?! Можа, цурка?!
— Ага, ага! Успомніў! Яна! Цурка!



## З БЕЛАРУСАМІ — ПА-БЕЛАРУСКУ

Адзін аднаму кажа:

— А я вас ведаю. Вы ў нашым доме жывяце і заўсёды па-беларуску гаворыце.

Той, другі, не разгубіўся. На рэпліку першага дыпламатычна мовіў:

— Гэта праўда: з беларусамі я заўсёды размаўляю па-беларуску, а з туркамі — па-турэцку ці яшчэ як інакш.



## АРЫ, КОЛЬКІ ХОЧАШ...

Прыехаў чалавек з Расеі ў Беларусь. Спатрэбіўся яму аднойчы плуг. А ў самога няма. Вырашыў папрасіць у нашага гаспадара:

— Можаш даць мне плуг на дзень?
— Дык мне самому араць трэба.
— Ты і ары колькі хочаш, а плуг дай мне!



## НЕ ТРЭБА НАМ БЕРАГ ТУРЭЦКІ...

— Ты хоць калі быў у Турцыі?

— Ніколі. Чаго я там не бачыў? У нас, на Беларусі, і сваіх туркаў хапае. Як тугадум які, дык толькі і чуеш: «Турак!» А пра некаторых асабліва ўпартых беларусаў і наогул кажуць: «Натурка, як у турка!» То чаго далёка ехаць, калі ўсяго турэцкага хапае і ў нас на Беларусі?



## МЕДАЛЬ ЗА ВЫЗВАЛЕННЕ АДЭСЫ

Прыйшоў у ваенкамат досыць яшчэ малады чалавек і кажа ваенкаму:

— Мне належыць медаль за вызваленне Адэсы...

— А колькі ж вам гадкоў? — пытаецца ваенкам.

— Ды хутка трыццаць!

— Дык жа ўжо вунь колькі гадоў мінула, як вайна скончылася. Які ж можа быць медаль за вызваленне Адэсы?.. Калі яе вызвалялі, вас і ў праекце не было, і вашы бацькі былі яшчэ малыя...

— А я, таварыш ваенкам, зараз вызваляю Адэсу. Праз колькі дзён я еду ў Ізраіль. Жыць там буду. І гэтым самым я вызваляю Адэсу...



## ЛІДА

Вяртаецца гаспадыня дадому і пытаецца ў гаспадара:

— Што ў нас тут новага?

— Так, нічога... Толькі з Лідай трохі паразмаўляў...

— З якой яшчэ Лідай?! Не паспееш адысціся, ён ужо нейкую Ліду заводзіць!

— Якая Ліда? Пра якую Ліду ты гаворыш?

— Пра тую, з якой ты размаўляў!

— А-а-а, вось ты пра што... Гэта ж я з горадам Лідай размаўляў, а ты ўжо неўма што падумала...



## У ЛЮКСЕМБУРГ

Адзін чалавек купляў жэтон у метро і падганяў астатніх:

— Ох, хутчэй, хутчэй, я пазнюся ў Люксембург!

А побач стаяў знаёмы. Пачуў ён гэта і пытаецца:

— Ого, ты што, і напраўду ў Люксембург едзеш?

— Ды не! Гэта мы так нашу вуліцу Розы Люксембург называем!



## ПРЫСВОІЎ

Пытаецца адзін хлопчык у другога:

— Дзе ты так спраўна ды хораша навучыўся па-беларуску размаўляць? Ад каго?

— Не ведаю… Мусіць, ні ад кога… Проста пазычыў у некага трохі беларускага розуму. Пазычыў і не вярнуў.



## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

У адной школе настаўніца беларускай мовы — дзеці называлі яе беларусіцай — ніколі не ставіла нікому па беларускай мове і літаратуры дзясяткі і дзявяткі. Аднойчы ў яе запыталіся:

— Чаму вы не ставіце нам дзясяткі і дзявяткі?

А яна — пытаннем на пытанне:

— А вы дома размаўляеце на роднай мове? Не? Дык за што ж вам тады ставіць гэтыя адзнакі?! Хіба родную мову можна вывучаць толькі на ўроках, якія ў нас бываюць гады ў рады?



## ЦІ ЁСЦЬ УПРАВА НА ЎПРАВУ?

Набірае дзяцюк адпаведны нумар і на другім канцы проваду чуе:

— Управа слухае!

— Дзень добры, управа! Вы якраз мне і патрэбны. Я шукаю ўправы на вашу ўправу. Ці ёсць на вас хоць якая ўправа?



## А НЕ ТАКІ ЎЖО ВЯЛІКІ

— Ты ў Маскве быў?

— Быў.

— А ў Вялікі тэатр хадзіў?

— Хадзіў.

— Ну і як?

— А не такі ён ужо вялікі! Тэатр як тэатр!



## РАЗВІТАННЕ З РАДЗІМАЮ

Філарманічны вядоўца абвясціў:

— А зараз паслухайце славуты паланэз Агінскага «Развітанне з Радзімай».

У зале сядзеў сталы наведнік. Ён уздыхнуў і сказаў:

— Колькі жыву, гэтулькі слухаю гэты славуты паланэз. А ці пачую хоць калі паланэз «Сустрэча з Радзімаю»?!



## НА КІТАЙСКІ ЛАД

Адзін занадта дасужы чалавек раіў мне маё прозвішча Содаль пісаць на кітайскі лад: Со Даль. А прозвішча таго райцы было Ліпень. Дык я яму на гэта:

— У цябе гэта будзе гучаць лепей! Глядзі: Лі Пень!



## А НА РОЗУМ ЯК?!

У даўнія часы пры Дзяржаўным камітэце працаваў якісь асобы аддзел. Ён даваў, скажам, дазволы на розныя маладаступныя крыніцы працы ў архівах. Давялося і мне ў тым аддзеле браць дазвол. Кіраўнік аддзела, перш чым паставіць свой подпіс, пацікавіўся:

— Як вас завуць?

— Уладзімір Ільіч, — кажу.

— А на розум як? — праз нейкую паўзу, асэнсоўваючы маё імя, пытаецца кіраўнік асобага аддзелу.

— А нічога сабе, таварыш Дун-ду-коў, — вымаўляю падкрэслена наўмысна па складах прозвішча загадчыка таго аддзела.



## ЛЕНІН

Была ў аднаго чалавека сястра Лена. Была яна замужам за Арцёмам. Дык гэты Ленін Арцём надта добры выпівоха. Неяк раз гэтага выпівоху затрымала міліцыя.

— Ты хто? Ты чый? — дапытваюцца ў яго міліцыянты.

— Ленін! — кажа Арцём.

У міліцыянтаў аж вочы на лоб ад здзіўлення палезлі:

— Хто-хто? Чый-чый?

— Я ж кажу — Ленін! Я праўду кажу! Чаму мне не верыце? Маю жоначку завуць Лена. То я і Ленін.



## УДАКЛАДНІЎ

— Я двухмоўны, — кажа адзін беларус другому.

— А мне здаецца, дык ты трохмоўны. Надта ж спраўна мацюкаешся!



## НЕ ПАГАДЗІЎСЯ

— Можна, я зрэдзь буду мацюкацца пры табе? — дамаўляецца падвыпіты дачнік з сваім суседам, таксама дачнікам.

— Можна, — кажа сусед. — Толькі за кожны мацюк будзеш мне плаціць па пяць долараў. А не — дык я і слухаць цябе не буду.

— Дык пайшоў ты! — смачна вылаяўся мацяршчыннік і вымеўся з двара.



## КАЛІ МОЎНАЯ ГЛУХАТА...

Кантралёр правярае праяздныя квіткі. А адзін пасажыр дый кажа:

— А ў мяне месячны.

— Не за октябрь, надеюсь…

— Не, на снежань.

А быў тады толькі лістапад.



## АДКУЛЬ ПУХ

Ідуць двое. У паветры лятае пух. Адзін і пытаецца:

— Адкуль яго толькі нясе?!

— А з Пухавічаў! — адказвае другі.



## СТРАЎНІК «ЗАПЭЦКАЎСЯ»

— Глядзі, ты запэцкаўся!
— Дзе?
— На шчацэ.
— Чым?!
— Мусіць, шашлыком.
— Дык што, у мяне і страўнік увесь запэцкаўся?



## ДУМАЛІ — «ЖАЎТУХА»

У адной сямейцы нарадзілася дзіця, жоўценькае такое. Думалі, што хворае на жаўтуху, і лячылі ад жаўтухі. А пасля высветлілася — гэта маленькі кітайчык.



## ЯКАЯ МАЗЬ, ТАКАЯ І ЎЛАСЦЬ

Едзе мужык на возе. Рыпяць пад ім колы. Даганяе другі мужык і кажа:
— А ты колы падмаж!
— А дзе мазь узяць?
— Схадзі ў сельсавет!
— Схадзіў, падмазаў… А яны ўсё роўна рыпяць. Якая ўласць, такая і мазь.



## МАРОЗІВА ДЛЯ КУРАНЯТАК

Ехала адна бабулька ў электрычцы і везла з сабою куранятак. Яны сядзелі ў каробцы і ціха сабе ціўкалі. Побач стаіць якісь чалавек і спагадна кажа:

— А ім не горача, не душна?

А бабка яму на гэта:

— Можа, і горача, можа, і душна. А што, у цябе ёсць для іх кандыцыянер? Калі ёсць, то ўключай. А мо для іх марозіва маеш? Калі ёсць, то давай! Яны не адмовяцца — здзяўбуць!

Пагаварылі, пагаманілі…



## ЛУКУ НЯМА, А ЦЫБУЛЯ БУДЗЕ!

Было тое ў трыццаць дзевятым, неўзабаве пасля паходу чырвонага войска ў Заходнюю Беларусь. Заскочылі неяк у адну хату колькі чырвонаармейцаў. Просяць:

— Хозяюшка, нам бы чего покушать.

А ў той у печы якраз бульба ў жару млела. Дык яна тую бульбу ім на стол. Селі. Пах умлелай бульбы аж нос казыча. Але нечага да тае бульбы нестае… Дык адзін і кажа:

— Хозяюшка, а луку у вас не найдётся?

Гаспадынька да 1939 года рускай гаворкі чуць не чула. Думае: «Навошта ім той лук?» Дзівіцца, як гэта яны збіраюцца ўмлелую бульбу ды з лукам есці. Але інтуітыўна адчула, чаго нестае да бульбы, дый кажа: «Луку няма, а цыбуля будзе!»



## А вы заплюшчыце вочы...

У вялікім «Ікарусе» гуляе колькі месцаў. Аднак некалькі сталых людзей не займаюць іх — стаяць… Хтось з пасажыраў запрашае іх сесці. Але тыя адмаўляюцца:

— Я лепей пастаю, — кажа адна. — Не магу ехаць спінай да кіроўцы, супраць руху аўтобуса… Мне з гэтага робіцца кепска…

— А вы, — раіць хтось з пасажыраў, — сядзьце, заплюшчыце вочы, і вам будзе здавацца, што вы едзеце якраз так, як хочаце…



## Боршч з вытрымкай

Гаспадар кажа жонцы:

— Што ты гэтак шмат навараеш баршчу? У нас жа не печ, а электрапліта. І сям'я ў нас невялікая: усяго ты ды я. Можна кожны раз хуценька свежага зварыць…

— А не кажы, — пярэчыць жонка. — Боршч чым больш пастаіць, чым больш вытрымку яму дасі, тым ён смачнейшы.

Праз дні два гаспадар узгадаў пра гаворку з жонкаю дый пытаецца:

— А дзе гэта той наш боршч, што мы з вытрымкай варылі? Давай яго пасёрбаем…

А жонка яму на гэта:

— Зварыць то я зварыла, а пасля на яго неяк забылася. Дык ён скіс. Я яго… ва ўнітаз выліла.

— От табе і маеш! — адно толькі вырвалася ў гаспадара.



## ЯК У ВЁСЦЫ ЖЫВУЦЬ...

Дзіўныя нашы гэтыя беларусы: як на вёсцы жывуць, дык усё «якаюць». Як толькі што, дык усё «як» ды «як». А як у горад пераедуць, пачынаюць «какаць»: «как» ды «как».



## ДАЛІКАТКІ

Усе народы свету выпрацоўваюць свае далікатныя моўныя этыкетныя формы пры не зусім стандартных сітуацыях. Скажам, расейцы кагось пры патрэбе схадзіць нечакана ў туалет пытаюцца:

— По-большому или по-маленькому?

Беларусы могуць пацікавіцца:

— На густое ці на рэдкае?

А не гэтак даўно ад адной паляшучкі пачуў:

— Схаджу траву палью.



## УСЕ СВЯТЫ МАЕ

— Сёння свята — Восьмага сакавіка. Хацеў павіншаваць. Але ж ты мужчына!

— Мяне можна віншаваць і на Восьмага сакавіка! Я хоць і мужчына, але я яшчэ і Дзева. То я не толькі ад віншавання, але і ад падарунка не адмоўлюся, калі такі будзе. То, калі ласка, віншуй!



## ЛЕТНІ АДПАЧЫНАК

— Дзе ты ўлетку адпачываў?

— У чэрвені — на Чэрвеньшчыне.

— А ў ліпені?

— На Лепельшчыне.



## І ТАК АДПАЧЫВАЮЦЬ

— Што гэта тваёй гаспадынькі апошнім часам нідзе не відаць? — пытаецца сусед у суседа.

— А з'ехала!..

— Куды?

— Адпачываць!

— А ты?

— І я адпачываю: яна ад мяне, а я — ад яе...



## ЛЮБОЎ

— Ты жоначку сваю любіш?

— Люблю! Калі дома — уцякаю. А калі паедзе куды, то кахаю.



## МАГНІТНАЯ БУРА

Адзін пытаецца ў аднаго:

— Як тваё здароўе?

— Ды нічога, толькі ціск дакучае.

— Здаецца ж, у атмасферы зараз усё спакойна, магнітных бураў няма.

— Гэта ўсё так, ды ў маёй хатцы свая магнітная бура жыве — гэта мая жоначка. Часам так разыдзецца, што галава кругам ідзе.



## ДЗЕЛЯ САМЕЙНАГА ПРЭСТЫЖУ

Сусед пытаецца ў суседа:

— А што я гэта апошнім часам твае гаспадыні не бачу?

— Паехала адпачываць.

— А куды?

— Здаецца, у Японію ці ў Егіпет...

Праз некаторы час ён дачуваецца, што ягоная суседка ні ў які Егіпет і ні ў якую Японію не ездзіла. А ўсяго толькі адпачывала на нашай Нарачы. Пры нагодзе пацікавіўся, чаму сусед так яму сказаў.

— А для сямейнага прэстыжу! Каб думалі, як мы шыкоўна жывём!



## ЛУШЧАЦЦА ДАЛЯРЫ

— У цябе, — кажа гаспадар сваёй гаспадыні, — нешта скура лушчыцца.

— Дык гэта румынскі загар сыходзіць.

— А я думаю, што гэта нашы даляры з цябе лушчацца, лустачкамі сыходзяць.



## ПАЕХАЛА Ў КАЛАРАДУ

— Нешта я даўно тваёй жоначкі не бачыў.

— А паехала за мяжу...

— Як паехала?! Яна ж толькі што вярнулася з-за мяжы.

— Так, вярнулася. Але зноў паехала...

— А куды ж на гэты раз?

— З каларадскімі жукамі ваяваць... На дачу... Выходзіць, што ў Калараду...



## МІСТЭР КАЛАРАДСКІ

— Кажаш: каларады нашай бульбе рады! Гэта ўсё так! А як ты думаеш: ці ёсць на свеце чалавек з прозвішчам Каларадскі?

— Думаю, што не. Ні адзін чалавек не можа пагадзіцца на такое прозвішча. Гэта ж абразліва — быць Каларадскім!



## ЦУДОЎНАЕ НАДВОР'Е

Лецішча. З самага ранку ўсчаўся дождж. Адзін гаспадар выходзіць на ганак, смачна пацягваецца дый кажа:

— Ах, якое цудоўнае сёння надвор'е! Цэлы дзень можна адпачываць!..



## ЗДАРОЎЕ Ў ЛЕСЕ

Сустракаюцца двое дачнікаў:

— Ты ў лес ходзіш, ягады збіраеш?

— І не хаджу, і не збіраю.

— Чаму?

— Няма здароўя.

— А дарэмна! Якраз у лесе і здароўе.



## Як каму жывецца

Раніца. Дачная суседка кажа суседу:

— Мы сёння дадому паедзем. Я тут вару свайму сабаку мяса. Дык магу даць табе гэты адвар. Можаш на ім сабе які боршчык зварганіць.

— Добра, — згаджаецца той. — А то ў мяне ўсё мяса выйшла…



## А пасварыцца ці зможаш?

З вечара гаспадынька паскардзілася на горла: нешта дзярэ, шаршавіць, сліну цяжка глытаць, удушвае. Нейкія як каткі ў горле. Ці не ангіну падхапіла? Нанач зрабіла спіртавы кампрэс, малака гатаванага з мёдам напілася. Заматала шалікам шыю. Неяк пераначавала ноч. Назаўтра яе чалавек і пытаецца:

— Ці палепшала табе за ноч?

— Палепшала, — кажа тая.

— Гэта добра! — усцешаны гаспадар. — А ці зможаш ужо на мяне за што-небудзь пасварыцца?

—?!



## Пачакай трошкі...

— Я сорак гадоў б'юся, цябе ўсё вучу парадку і ніяк не прывучу, — казала з гневам кабета свайму гаспадару.

— Нічога, не бядуй, — суцяшаў чалавек сваю кабету. — Хутка будзе ў цябе парадак. Сваёй вучобай ты хутка мяне ў магілу загоніш. Тады ўжо ў цябе будзе поўны парадак.



## Стайня ў машыне

Едзе ў машыне сям'я: двое дзетак, ён і яна. Ён і яна з нечага счапіліся сварыцца. Сварыліся, сварыліся, і раптам яна на яго:

— Асёл!

Ён на яе:

— Кабыла!

А большы хлопчык на гэта і кажа ім:

— Мама і татка, як вы размаўляеце міла: цэлую стайню ў машыне развялі!



## У стаматолага і дома

Вярнуўся гаспадар дадому. Тут на яго накінулася жонка:

— Дзе ты, балда, цягаўся? Балбес, валацуга!

— Хадзіў я, жоначка, да доктара зубы рваць. Як жа ён лагодна казаў: «Рот шырэй, яшчэ, яшчэ... От так! Малайчынка, разумнічак...» Не тое, што ты цяпер...



## ЖОНКА Б’ЕЦЦА

Прыйшоў электрык правяраць пліты і пытаецца:

— Ваша пліта не б’ецца?

— Не, — кажа гаспадар, — пакуль не б’ецца. Адно толькі жонка трохі б’ецца... Але нічога: неяк разам з вамі яе ўціхамірым, — і, лагодна гледзячы на жонку, усміхаецца.



* * *

Невялікая хвала, калі карова бадае вала.

Невялікая хвала і калі жонка б’е мужыка.



## МУШУ БАБЫЛЁМ ЗАСТАЦЦА

— Наш дзяцюк сёння да дзяўчат бегаў, — кажа дзядуля бабулі.

— Ага-а, — адгукаецца дзяцюк, — бегаў... Бегаў, бегаў і ніводнай не выбраў...

— А чаму ж?

— Усе кураць, каб на іх поўсць курэла... Не прайсці... Гідка на іх глядзець... А мне такія не трэба! Мне такія паравозы не падыходзяць! Так што я, мусіць, ніколі не ажанюся... На ўсё жыццё бабылём застануся!..



## КАЗАЎ БОГ, КАБ ТЫ ПАМОГ

Вярталіся дзве бабулькі з малітоўнага дома. А была зіма. Дарога раскоўзаная, слізкая, няроўная. І от гэтыя бабулькі ў адным месцейку не ўтрымаліся на нагах і пакаціліся абедзве на зямлю. Упалі і ляжаць, як дзве чарапахі, жыватамі ўгору, а ўстаць не могуць. Аж ехаў той дарогаю легкавік. Згледзеўшы на дарозе бабулек, кіроўца спыніў машыну, падышоў да іх:

— Чаму не падымаецеся? Што з вамі?

— Ды от хадзілі Богу маліцца. Вярталіся дадому — і пападалі.

— Дык чаго вы Бога не папрасілі, каб вам памог?

— Папрасілі! І ён цябе да нас паслаў!..



## ФАКТАР СТРАХУ

Глядзелі аднойчы бабуля з дзядулем тэлевізар. Ішла перадача «Фактар страху». Там чалавека клалі ў нейкую

труну і сыпалі туды розных вужакаў, павукоў, слімакоў. Яны там круціліся, лезлі да чалавека ў рот, у вушы... Як перадача скончылася, бабуля спытала ў дзядулі:

— А ці змог бы ты такое вытрымаць?

— Не, мне і адной хопіць — цябе...



## ТУТ УСЕ ПАМЕРЛІ?

У жылым гарадскім гмаху размясцілася рытуальнае пахавальнае бюро. Каб прывабіць кліентаў, уладальнік гэтага бюро побач з шыльдай сваёй канторы вывешваў жалобныя вянкі, стужкі... Гэта вельмі прыгнятала жыхароў. А малыя дзеці пыталіся:

— Наш дом памёр? Памрэ? Наш дом мёртвы?



## ХОДЗІЦЬ ДА ХРАМА...

— Ты ходзіш да касцёла?

— Але. Туды пракладзена добрая дарожка праз сад. Дык я раблю вечаровыя мацыёны.



## ХТО ЎКУСІЎ?

Неяк адна бабка распавядала, што, калі яна падкормлівала капусту, яе ўкусіў шэршань.

— Няўжо шэршань? Ён жа кусае амаль смяротна!

— Ну дык не шэршань, а чмель.

— Як чмель? Ён жа на салодкае ляціць!

— Не чмель, а можа, авадзень.

— А чым ты палівала капусту?

— Вадзічкай на каравяку.

— Дык на пах каравяку ляціць сляпень!

— Во-во, ён самы!



## КОД — НЕ КОТ

Адна бабуля тэлефануе другой:

— Прыходзь да мяне ў госці! Але ў нас на дзвярах код.

— Які кот? Чаго ён там разлёгся?

— Ды не кот, а к-о-од-д!

— А-а-а!..



## ГУСІ-САБАКІ

Неяк адна цётачка выганяе гусей з агарода:

— Агыля, сабакі! — махае яна на іх сваім дубчыкам.

— Якія гэта сабакі?! Гэта ж гусі! — запярэчыў сусед.

— Якія гэта гусі?! Гэта ж свінні. Бач, як увесь агарод змясілі!..





Ідзе бабуля з цэлым бярэмам кветак. Хтосьці кажа:

— О! Адразу відаць, што ідзе імянінніца!

Побач з юбіляркай ідзе дзядуля, аж згінаецца, з вялізнай сумкай, напакаванай падарункамі. Ён і пытаецца:

— А на каго я падобны?

— На памочніка імянінніка.



## ПРАПАНОВА

Неяк адной добра распаўнелай жанчыне параілі праз галадаванне пахудзець.

— Добра, — пагадзілася яна. — Толькі раніцай спачатку я паснедаю, тады да абеду пагаладаю. Пасля паабедаю і зноў пагаладаю, аж да вечара… І заўтра гэтак! Згода?



## УСЁ Я ДЫ Я

Жыў-быў хлопчык. Быў ён вельмі спешчаны, прывык жыць на ўсім гатовым. Прыехаў аднаго разу да бабулі з дзядулем. Яго папрасілі: «Унучак, прынясі акуляры». Прынёс. Праз нейкі час зноў просяць падаць газету. Падаў. Хутка зноў чуе: «Унучак, падай кубак з вадой». Тут хлопчык ужо не вытрымаў і сказаў абурана:

— Што гэта ўсё я ды я?!.



## ГАЛОЎКІ ЗРАЎНЯЛІСЯ

Маладзічка купіла сваім дзецям новыя каптуры і давай прыкідваць іх да сваёй галавы... Пракідвала, прыкідвала дый кажа:

— А ў маіх дзяцей галоўкі ўжо такія, як у мяне...

А хтосьці з боку дадае:

— Але, але... Ваша галоўка такая, як у вашых дзяцей, і розум у вас такі ж... дзяціны...





Прыйшлі ўнукі да дзядулі і бабулі. Адзін з унукаў хваліцца новым тэлефонам:

— І вы можаце сабе такі купіць, толькі трэба ўсю адкладаць вашу пенсію два месяцы!

Другі ўнук кажа:

— Дык яны, блін, з голаду памруць!

А дзядуля не разгубіўся:

— І не спадзявайцеся, мы будзем вашымі блінамі харчавацца.





— Адкуль вы?

— З Кулікоў.

— Кулікі... Ці гэта не тыя Кулікі, дзе ні хлеба, ні мукі?

— Але, але!..



## ХТО ПРА ШТО КАЖА

Бывала, чалавек напрацуецца, зморыцца, наманежыцца, прысядзе на якую хвіліну дых перавесці, а трэба ісці, далей рупіцца. А ўставаць ой як не хочацца! Тады

кажуць: як сеў, дык і прыкіпеў. Прыкіпець-то прыкіпеў, а галава яму: «Ідзі, ідзі!» А азадак: «Пасядзі, пасядзі!» І от тут каго хочаш, таго і слухай, што хочаш, тое і рабі!



## У Бога ўсяго многа

— Я лічу, што сама болей грошай у Бога.

— Чаму ты так думаеш?

— А ў Бога ўсяго многа.



## Букет

Сустракаюцца двое знаёмых. Адзін з іх і пытаецца:

— Ну і як здароўе?

— А не пытайся, — кажа другі. — Хворы. З ног да галавы. Ногі грыбок раз'ядае. Арытмія сэрца. Гіпертанія. Дыябет. Усяго і не ўспомніш! Хваробаў цэлы букет. Адна толькі душа жыве, нечага яшчэ хоча, нечага прагне!..

— А што ў цябе з носам?

— Спачатку нос меў панос, калі з яго ўсё лілося. А потым у носа быў запор, калі там усё засталося.



## ПЛЮС ЦІ МІНУС

— Выбачайце. Я акуляры не ўзяў. Без акуляраў я не магу прачытаць. Мне нічога не відаць. Усё зліваецца ў адно.

— Вазьміце мае. У вас што? Плюс ці мінус?

— У мяне зусім мінус правае.



## У НЕКАТОРЫХ ЛЮДЗЕЙ — ДА ГРУДЗЕЙ, А Ў НАС ТОЛЬКІ АД ПУПА, І ТО СКУПА!

Гэтую показку пачуў у лякарні «хуткай дапамогі». І вось з якой нагоды. У лякарні быў абвешчаны каранцін. Пра гэта нагадвала і абвестка. А пры ўваходных дзвярах нават былі расстаўлены турнікеты. Тым не менш між тых турнікетаў калі-нікалі прашмыгалі некаторыя. Я звярнуў на гэта ўвагу гардэробшчыцы. Яна запярэчыла:

— Ну і што! У некаторых людзей — да грудзей, а ў нас толькі ад пупа, і то скупа! Каранцін ёсць каранцін!

Я пацікавіўся ў гардэробшчыцы, адкуль у яе такая показка.

— А з Стаўпеччыны, — сказала яна. — З радзімы Якуба Коласа. У нас заўсёды так гавораць на таго, хто на людзей спасылаецца, апраўдання шукае.



## ГАРЛЯНКА-ГАРЭЛКА

Сустракаюцца двое. Адзін і пытаецца:

— Чаму цябе так доўга не было відаць?

— Хварэў.

— А што з табой?

— Ангіну падхапіў.

— А чым ты лячыўся?

— Гарлянкаю, траўкай такою. Заварваў, парыў і піў.

— І я ж хварэў на ангіну.

— А чым жа ты лячыўся?

— Ты гарлянкаю, а я гарэлкаю! Вельмі ж памагае!



## БРОВАР У СТРАЎНІКУ

— А ты што — зусім не п'еш? — пытаецца адзін хаўруснік у свайго новага знаёмага.

— Не піў і не п'ю! І ў рот не бяру.

— А як жа так?!

— А ў мяне канстытуцыя страўніка такая: скажам, з'ем бульбачкі, а мой страўнік, як бровар які, з тае бульбачкі і якуюсь кроплю спірту вышчапіць. Няшмат, але па ўсім целе расходзіцца нейкая, як з хмелю, млявасць, лагода, мо гэта з сытасці... Гэтак і жыву ў ладзе і згодзе з хмелем праз харчы і харчаванне. І ніколі вочы не заліваю...

— О! Каб мой арганізм быў здольны на такое! — пазайздросціў выпівоха. — Я быў бы вельмі шчаслівы!



## ТАТАВА ПАРАДА

Прыйшоў сын дадому і кажа:

— Тата, я хачу скасаваць шлюб з сваёй жонкай…

Тата падумаў трохі і кажа:

— Ведаеш, сынок… Спачатку ты скасуй шлюб з пані Гарэлкай, потым з панам Тытунём, а пасля рабі, як хочаш!



## ЖАРТЫ З ЛЯКАРНІ

Хворы першы раз трапіў у лякарню. Пакуль знаёміўся, дзе якая лабараторыя, у якім кабінеце яго доктар, на яго тумбачцы пры ложку з'явілася запіска: «Заўтра раніцай здаць аналіз поту. Лабараторыя такая і такая...»

Прачытаў і здзівіўся: першы раз чуе пра такі аналіз. Пачаў распытвацца ў аднапалатнікаў, як гэта робіцца.

— А, — кажуць, — раніцай трэба з галавою накрыцца коўдраю, прапацець і з-пад пашкі на шкляначку ці ў невялічкую прабірачку наскрабці таго поту і здаць у адпаведную лабараторыю. От і ўся мудрагелістасць гэтага аналізу...

Назаўтра навічок гэтак і зрабіў, як параілі яму аднапалатнікі. Накрыўся коўдрай з галавою і пачаў пацець. І раптам пачуў у палаце лёгкае хіхіканне. Адкінуў коўдру і ўсё зразумеў: аднапалатнікі хітранька ўсміхаліся.



## РАДЫКУЛІТ

Жыла-была бабулька ў адной вёсцы. І аднойчы так здарылася, што яе прыхапіў радыкуліт. І гэтак моцна, што ні сагнуцца, ні разагнуцца не магла. А доктара блізка не было, таму рашылі лячыць яе народнымі сродкамі. Трэба было знайсці пчалу і пасадзіць бабульцы на спіну. Але пчалы нідзе не было, толькі чмяля знайшлі. Ну, што ж рабіць? Пасадзілі таго чмяля на спіну бабульцы. А той чмель, доўга не думаючы, як жырмане яе! Бабулька як падскочыць, як кінецца з хаты! А на падворку стаялі бочкі з вадой. Дык яна ў бочку ўскочыла і сядзіць. Ледзь угаварылі яе вылезці адтуль. От так ад радыкуліту лячылі…



## ПРАЗ КОЖНУЮ ГАДЗІНУ

Доктар-акуліст зрабіла бабульцы нескладаную аперацыю на вачах дый кажа:

— От вам рэцэпт на кроплі. Капайце як мага часцей, праз кожную гадзінку па дзве кроплі ў абодва вокі. І гэтак дні тры-чатыры. А пасля пакажацеся мне.

Бабулька выслухала доктарку і пытаецца:

— А спаць калі?

— Як калі? Як заўсёды...

— Але ж вы сказалі капаць праз кожную гадзіну. То каб не праспаць.



## НА ПРЫЁМЕ Ў ТЭРАПЕЎТА

— Што вы за доктар? Усё пытаецеся: «А тут баліць, а тут не баліць?» Вось ветэрынар, дык той ніколі не пытае, заўсёды сам вызначае хваробу.

— То ж ветэрынар! Яму ж лягчэй: не трэба выпісваць бюлетэні.



## ЛЕЖНЯ

— Ляжы, ляжы. Не падымайся, не варушыся! — кажа наведнік хвораму.

Хворы, крэкчучы, усё ж падымаецца з ложка:

— Мне і так надаела гэта лежня.



## ЛЕКАВАЕ МАЛАКО

Адзін хлопчык часта хварэў. Яму казалі, што трэба піць казінае малако. А ён пярэчыў: «Не хачу, не буду, бо той, хто п’е казінае малако, козлікам стане». Бацькі падумалі, падумалі і вырашылі, што будуць казаць не «казінае», а «лекавае» малако. І што б вы думалі? Хлопчык паправіўся, ачуняў. І вылечыла яго не толькі малако, а яшчэ і далікатнае слова.



## ПЛАСЦІНКА-МАРМЕЛАДКА

Ставіць доктар хлопчыку на зубы пласцінку і кажа:

— Будзеш насіць сваю чырвоную, як мармеладка, пласцінку цэлы год.

А хлопчык яму на гэта:

— Каб гэтая пласцінка была такая ж салодкая, як мармеладка, я б насіў яе хоць пяць гадоў!



## ХВАРОБУ ЗМЯНІЎ

— Ты чаго тут ходзіш?

— У паліклініцы быў...

— Твая ж паліклініка не тут... Хіба паліклініку змяніў?

— Не, хваробу змяніў... А ў нашай паліклініцы яе не лечаць.



## АДКУЛЬ ГАРБАТАСЦЬ

Пытаецца маці ў сына:

— Гарбаты хочаш, гарбату піць будзеш?

— Не, не буду, бо, баюся, стану гарбатым.



## КАБ НЕ ЗАХВАРЭЎ

У кватэры жывуць два браты — старэйшы і меншы. Старэйшы хворы, а меншы не. Убачыў малодшы, як хвораму лекі даюць, і крычыць:

— Дайце і мне гэтага таксама!

Мама пытаецца:

— А табе навошта?

— Каб не захварэў! — кажа той.



## ЛЕКІ АД АНГІНЫ

Малы просіць у мамы:

— Мама, хачу марозіва!

— Нельга табе. У цябе горлейка чырвонае — ангіна.

— А майму сябру таксама горла балела. Дык ён толькі марозівам і вылечыўся.



## ДЗЕ ГЭТА Я?

На падыходзе да пад’езда стаіць чалавек, хістаецца і сам з сабою разважае:

— Дзе гэта я?

— На Ракасоўскага, ля дома 47, — нехта падказвае яму.

— А ў якім горадзе?



## ПІ БЕЛЕНЬКАЕ — І БУДЗЕШ БЕЛЕНЬКІ

Бяседа, застолле. Усе п'юць, частуюцца. Толькі адзін сярод іх, гіпертонік, усё націскае на розныя сокі, і пераважна на таматны. Хтось з бяседнікаў заўважае яму:

— А ты беленькую пі — і будзеш беленькі. А то п'еш усё толькі чырвонае — і ўсё больш і больш чырванееш.



## ЖОНКА СВАРЫЦЦА

— Чаго ты ўвесь час п'яны?

— Дык жонка сварыцца, таму я і п'ю, што сварыцца.



## ХТО ПРА ШТО

Гаспадынька рыхтуе стол да абеду і пытаецца ў гаспадара:

— Дык што? Ты гатовы ўжо? Наліваць?

— Налівай, — кажа той. — Але ж я за рулём!



## НАЛІВАЙ

Кажа жонка мужу:

— Калі ты цвярозы, то нічога разумнага ад цябе не пачуеш!

— Тады налівай!



* * *

— Хутка і я ўжо пенсію прычакаю, — кажа адна, разважаючы пра сваё жыццё-быццё.

— А хіба ж ты яшчэ не на пенсіі? — дзівіцца другая. — Колькі ж табе?

— Ды ўжо восемдзесят два.

— Дык чаму ж ты тады кажаш: «Хутка пенсію прычакаю...»

— Дык я ж пра месячную, чарговую выплату кажу.

— А я то падумала...





Ідуць двое пенсіянераў. Адзін з іх і пытаецца:

— Якая ў цябе пенсія?

— Чатыры тысячы.

— Усяго? Чаго так мала? Такіх у нас пенсій не бывае...

— Бывае, не бывае... Усё бывае. Як прыйду дадому, дык жонка 150 тысяч сабе забярэ, а мне 4 тысячы дасць... От таму такая ў мяне пенсія...



## ШЧАСЦЕ

— Ці быў ты хоць калі шчаслівы?

— Так, быў... Пакуль не ажаніўся!



## СЫН — СВІН

— Ну, а як ваш сын? — пытаецца адна знаёмая ў другой.

— Сын — свін!

— А што так?

— А як іначай сказаць? Як паехаў, то і да гэтай пары аніякай вестачкі ад яго.



## КАСТУСЯ ПРЫПІСАЛІ

Прыехала матуля да сына. А сын якраз атрымаў новы пашпарт. Мама пагартала яго, пагартала і кажа:

— Вы што, сабе і Кастуся прыпісалі?

— Кастуся? Дзе вы бачыце?

— Вось тут, на штампіку напісана: Кастусь.

Сын узяў у рукі пашпарт і ўсміхнуўся:

— О! Такога Кастуся кожны беларус мае за гонар прыпісаць! Гэта ў нас вуліца завецца Кастуся Каліноўскага.

— А я падумала, што гэта нашага ўнука Кастуся сабе прыпісалі.



## КАЛЯДА

Заскочыў неяк сусед да суседа, а ў таго застолле, аж стол ад розных страў ломіцца.

— З якой нагоды такое застолле? — дзівіцца ён.

А яму кажуць:

— У нас Каляда!

— Якая яшчэ Каляда сярод лета? — не перастае дзівіцца сусед. А таго няўцям яму было, што да суседа прыехаў госць з прозвішчам Каляда.



## НЕ ЎСЁ ТОЕ, ШТО Ў ВІТРЫНЕ, ЁСЦЬ У МАГАЗІНЕ

Адна жанчынка купляла чарэшні. У вітрыне яны былі досыць прывабныя. Але зважылі ёй якіясь прывялыя, пацiснутыя. Пакупніца запярэчыла:

— А вы мне зважце з вітрыны!

Прадаўшчыца на гэта:

— Не ўсё тое, што ў вітрыне, ёсць у магазіне... Калі хочаце, бярыце, што ёсць.



## НЕ ЎСЯКАЯ КУРАЧКА ЯЙКІ НЯСЕ

Адна кабетка распавядала другой:

— Сёння я ездзіла на рынак. Купіла там курачку, пару дзесяткаў яек.

Хацела яшчэ штось сказаць, але другая перапыняе:

— А навошта яйкі? Раз купіла курачку, то хай тая і яйкі нясе...

— Дык я ж не жывую курачку купіла, толькі яе тушку.

— То так і кажы, што купіла курыную тушку. А то — купіла курачку. А з курачкай і яйкі.



## ПРЫЕЛІСЯ

— Сядай снедаць! — запрашае гаспадар госця.

— А што на сняданак?

— Яйкі...

— Ай, гэтыя яйкі ўжо дома прыеліся... І вараныя, і параныя, смажаныя і так...

— А колькі ж у цябе курэй?

— Адна!



## ГУСТА — НЕ ПУСТА

Садзяць людзі ў агародзе бульбу. А ідзе па вуліцы чалавек і кажа:

— Надта ж густа вы садзіце.

— Густа — не пуста, — адказаў гаспадар.



## ПАРТЫЗАНСКІЯ ЧЫПСЫ

— Вось ты кажаш, што любіш чыпсы. А ці ведаеш ты, што іх радзіма — Беларусь?

— Няўжо? Адкуль ты ведаеш?

— Кажуць, падчас апошняй вайны нашы партызаны, калі не было мінаў, клалі на рэйкі бульбу, і тады з-пад колаў цягніка выляталі чыпсы.



## РУПЛІВЫ ВУЧАНЬ

— Ты ўрокі на заўтра зрабіў?
— Зрабіў.
— Так хутка?
— Нам на заўтра нічога не задавалі. Толькі ж пачаўся навучальны год.



## БАТАРЭЙКІ СЕЛІ

Стомленаму хлопчыку прапанавалі зрабіць урокі на колькі дзён наперад. Той зняможана сказаў:
— Не магу!.. У мяне батарэйкі селі!





У аднаго хлопчыка спыталі:
— Ці часта табе сняцца сны?
— Так, часта. Але ніводнага з іх не дагледзеў да канца.
— Чаму?
— Бо на самым цікавым мяне будзяць у школу.



## РАНІЦЫ НЕ БАЧЫМ

Новая настаўніца знаёміцца з класам. Цікавіцца, якія дзіцячыя выданні вучні ведаюць. Нехта назваў «Вясёлку», хтось «Зорьку».

— Ну, а «Раніцу» ці хто з вас бачыў?

— Не, раніцы мы не бачым, — адказаў за ўсіх адзін шустрык. — Раніцай мы ў школу ідзём.



## БОРШЧ З КРАПІВОЙ

Аднаго разу мама сказала:

— Хлопчыкі, сёння зварыла вельмі смачны боршч. Такі смачны, што за вушы не адцягнеш. Такога баршчу вы яшчэ ніколі-ніколі не елі… Ён з крапівы...

Я на гэта нічога не сказаў. А ў майго брацiка, Максімкі, вочкі на лоб:

— Як гэта боршч з крапівой? — прастагнаў ён. — Я не буду есці. Крапіва мне язык шчыпацьме.

Каб пераканаць Максімку, што звараная крапіўка не кусаецца, мама сербанула сама колькі лыжак свайго варыва. Ды Максімка нікому не даваў веры, пакуль не паспыталі ўсе. Але і тады доўга яшчэ глядзеў на боршч падазрона. Урэшце цікаўнасць і голад яго адолелі. Калі ўсе паабедалі — ні з кім нічога не здарылася, — тады сказаў:

— Давайце і я паспытаю вашай крапіўкі…

Напраўду, боршч быў смачны. Такі мяккі, што елася і яшчэ хацелася.

Мама сказала, што боршч з крапіўкай вельмі карысны для дзяцей, бо ў ім шмат вітамінаў. Праз нейкі час мы з брацікам папрасілі маму яшчэ зварыць такой стравы.



## ХТО БОЛЬШ ЗА ЎСІХ ГРЫБЫ ЛЮБІЦЬ

Аднойчы прыходзіць дзядуля і загадкава кажа:

— Высыпалі першыя грыбкі. А ці ведаеце вы, хто больш за ўсіх гэтаму рады?

Першы кажа:

— Вавёрка!

Другі крычыць:

— Няпраўда, вожык! Я сам раз бачыў, як вожык на сваіх калючках баравік нёс!

А трэці слухае іх і дадае:

— Праўду вы ўсе кажаце. Але, як мне здаецца, больш за ўсіх любяць грыбы чарвякі. А што ад чарвякоў застаецца, тое нам дастаецца!





— А што гэта твой сябра даўно не абзываецца?

— А чаго гэта ён павінен мяне абзываць?

— Я не пра абзыванне кажу... Я пытаюся: чаму даўно не адгукаецца?

— Гэтак бы і сказаў. А то я думаў: чаму не абзываецца...



## НЕ МАГУ ЎСТАЦЬ!

Адна настаўніца згадвала:

— Выклікаю неяк раз сваю навучэнку да дошкі, а яна як не чуе: як сядзела, так і сядзіць. Я яшчэ раз паўтараю: «А зараз да дошкі пойдзе Юля Жыгунова», — і гляджу на яе. І тая раптам павінавачана кажа: «Алена Уладзіміраўна! Я не магу ўстаць! Мяне хлопцы прывязалі да парты!» Як прывязалі?! Першы раз такое чую. Гляджу — і праўда, мая Волечка прывязаная матузкамі фартуха да парты. Даўней жа дзяўчаткі хадзілі ў школу ў фартухах, такая тады была форма. Ну што ты з гэтымі гарэзамі зробіш?! Давялося тую Волечку выручаць, вызваляць з няволі.



## АЎТОБУС-САМАЛЁТ

Адна маленькая дзяўчынка першы раз трапіла ў аэрапорт. І вось заходзіць яна разам з людзьмі ў аўтобус, які павінен падвезці іх да самалёта. Дзяўчына недаверліва пытаецца ў сваіх бацькоў:

— А хіба мы на гэтым самалёце паляцім? А дзе ж яго крылы?

— Гэта ж аўтобус!

— А што ён тады робіць у аэрапорце?



## МАМА НЕ СЛУХАЕЦЦА

У аўтобус заходзіць невялікае хлапчанё з матуляй. Хлопчык чагось румзае, хныкае, капрызіць. Адзін спагадны чалавек пытаецца:

— Хлопчык, ты чаго плачаш? Чым ты незадаволены?

— Ды во — мама не слухаецца! — кажа той.



## КАМІЗЭЛЬКА

Купілі неяк раз дзядульку камізэльку. На ёй было шмат-шмат кішэняў і кішэнек. І на грудзях, на баках і нават на спіне. І от хтось з сваіх родных сказаў:

— Ой, колькі кішэняў! Сюды можна гэтулькі грошай пакласці!

А дзядулька на гэта:

— Дык кладзіце!

Але ніхто нічога не паклаў. Толькі засмяяліся.



## ТУШАНЫЯ ГАРБУЗЫ

Пасадзіла бабулька ўнука за стол і паставіла яму штосьці жоўценькае кубікамі.

— Еш! — сказала бабулька.

— А што гэта такое? — спытаўся хлопчык.
— Гэта гарбуз тушаны.
— Які-які гарбуз?! — перапытаў ён.
— Ды тушаны!
— А хіба ён гарэў? У вас пажар быў?
— Які пажар?!
— Ну вы ж кажаце, што тушаны гарбуз. А хто яго тушыў?..



## НЕЗВЫЧАЙНАЯ ВЯЧЭРА

Міхасёк цэлы дзень бегаў на вуліцы. Мама колькі разоў яго гукала абедаць, а ён усё аднекваўся: то не хачу есці, то яшчэ трошкі пагуляю... Так і не бег у хату.

Дамоў вярнуўся, калі ўжо добра ўцямнела. Мокры, распараны, успацелы. Крышку стомлены, вядома ж, галодны. Таму яшчэ з парога, нават не распрануўшыся, запытаўся:

— Мама, а што ў нас сёння на вячэру?
— Яглы, — адказала спакойна маці.
— А што гэта за яглы?
— А гэта тыя, сынок, што не еўшы спаць ляглі!..



## ВУЧУСЯ СЛУХАЦЬ

Мама сварыцца на сына:

— Які ты няўважлівы, бесталковы, не ўмееш нікога слухаць!

— Я, мама, вучуся слухаць. Я чытаю дзядулеву кніжачку «Умей слухаць». Каб я не ўмеў слухаць, дык ніколі не пачуў бы, не падслухаў ніводнай смяшынкі.



## АДКУЛЬ ТУТ «БЛОХІ»?

Ідуць два сланы па полі. Да іх падбягаюць сабакі і пачынаюць кусацца. Адзін слон пытаецца ў другога:

— Паслухай, браток, ты не ведаеш, адкуль тут блохі ўзяліся?!



## ЗМЯЯ «СПАЎЗЛА»

Вучні атрымалі на дом заданне зрабіць ілюстрацыі да казкі. Назаўтра ўсе прыходзяць з малюнкамі, толькі ў Вовачкі няма. У яго спыталіся:

— Чаму ты не выканаў дамашнюю работу?

А Вовачка кажа:

— Я намаляваў змяю, але яна спаўзла з майго малюнка.



## ПАЧАКАЙ МЯНЕ

Тэлефануе сяброўка сяброўцы:

— Дзе ты цэлы дзень ходзіш? Тэлефаную, тэлефаную, а цябе ўсё няма і няма... Дзе ты была?

— Ды на рынак ездзіла.

— А што ты адтуль смачненькага прывезла?

— Ну, арэшкаў розных, палачак крабавых, трохі мандарынак ды апельсінак, карпа свежага...

— Ой, якое ўсё смачненькае! Чакай мяне... я зараз да цябе прыеду!





— Ты ў школу ходзіш?

— Не.

— Такі вялікі — і ў школу не ходзіш?

— Мяне на машыне возяць.



## ЗАСУМАВАЎ

Усяго мо з тыдзень пасля летніх канікулаў пахадзіў хлопчык у школу. Прыходзіць неяк засмучаны і пытаецца ў бабулі:

— А ці хутка ўжо восеньскія канікулы?





Мама просіць:

— Не гуляй, сынок, з грашамі, бо яны брудныя.

— Нічога, мама, мы іх адмыем, — адказвае хлопчык.





— Ты чаму гэтак доўга рукі мыеш? — пытаецца тата ў маленькага сына, які ўсё не выходзіць з ваннай.

— Ды я не рукі мыю, а мыла, — тлумачыць той.





Аднаго разумнага хлопчыка дарослыя і дзеці называлі прафесарам. Спачатку гэта яму падабалася, а потым абрыдла. І ён мовіў:

— Я не прафесар, у мяне акуляраў няма!



## КІТ

Жыў-быў хлопчык з прозвішчам Кітоў. У яго была мянушка Кіт. Аднойчы да яго падышоў хлопец і спытаўся:

— Кіт, а Кіт?

— Што?

— Ты ў якім акіяне жывеш?



## ТРЫ

Хлопчык прыходзіць дадому і кажа трошкі з самотай:

— Мама, тата! У мяне сёння тры...

— Ну што зробіш — тры, дык тры... Іншым разам будзе лепей.

— Не, мама, у мяне не проста тры, а тры пяцёркі!

— Вось як!



## КІШЭЧНІК

Жыў-быў хлопчык. Любіў ён збіраць каменьчыкі. Ішоў аднаго разу па дарозе, і трапіў яму пад ногі каменьчык. Ён падняў яго і сказаў:

— Паглядзі, дзядулька, які прыгожы каменьчык. Рабенькі... Пакладзі яго ў свой кішэчнік!



## ЦУКЕРКІ І ПАПЕРКІ

Адзін сябра кажа другому:
— Глядзі! Адна цукерка і да яе дзве паперкі!
Другі яму на гэта:
— Лепей была б адна паперка, а ў ёй дзве цукеркі!



## ПАПЛАЎКІ

Хлопчык чытае кніжку і пытаецца, што такое ыркі. Дзядулька жартуе:
— Ыркі — гэта такія паплаўкі ў чалавека.
— Дык што, на іх можна і рыбу вудзіць?



* * *

— Чаму ты камароў забіваеш?
— Таму што я іх не люблю.
— Затое яны цябе любяць!



* * *

— Ты чаму гэта лупіш камароў?

— А што?

— У іх з намі адна кроў. У іх наша кроў. Яны нам крэўныя. Камары — за кроў ваяры.



## Крэўныя

— Яны ж былі нейкія крэўныя, здаецца, радня.

— Ага, радня. Як той казаў: «Як сонца зойдзе, дык і чорт не знойдзе», «Твой плот майму плоту дваюрадны дзядзька». Ці яшчэ: «Твой цень, мой цень і наш пляцень нам дваюрадныя».



## Разумныя ўнукі

Бабулька пытаецца ўнукаў:

— Дзеці, паедзем на лецішча?

Самы спрытны хуценька адказаў:

— Паедзем, але толькі калі замест школы!



## Будка

Маленькі хлопчык гуляў з матуляй па праспекце Пераможцаў. Там яму на вочы трапіўся харчовы шапік. А на ім з усіх бакоў напісана: «Смачна. Хутка. Смачна. Хутка...» Хлопчык сяк-так, па складах (мабыць, толькі яшчэ вучыўся чытаць) прачытаў гэтае «хутка» і пытаецца:

— Мама! «Хутка» — это что? Будка?



## ШАХМАТНЫ ХАБАР

Гулялі два юныя шахматысты. Аднаму з іх быў непазбежны мат. І той пачаў прасіцца:

— Ну здайся мне, здайся! Я табе за гэта дам тысячу.

Безумоўна, здацца сапернік не захацеў. Гонар не дазваляў. Ён зрабіў ход і абвясціў мат.

— Што ты нарабіў! — заенчыў хабарнік. — З-за цябе я прайграў не толькі партыю, а яшчэ і тры тысячы.

— Якія яшчэ тры тысячы?

— Мне бабуля за кожную перамогу дае тры тысячы.

— А за нічыю?

— Паўтары тысячы.



## НА МЯТЛЕ

Адной маленькай вясковай дзяўчынцы пашчасціла пагасцяваць у вялікім сталічным горадзе. Вярнулася

яна з таго падарожжа, бабулька і пытаецца, дзе яна там была, што бачыла. Дзяўчынка і кажа:

— Ой, бабулечка... Я там на мятле каталася.

— На чым, на чым каталася?

— На мятле!..

— Дзе ж там тая мятла?

— Ды пад зямлёй!..

— А! На метро!

— Ага, ага, на ім, на мятле...



## МЫЛА

— Ты рукі мыла?

— Мыла! Але без мыла.

— А ці чыста памыла?

— Паглядзі на ручнік.



## ШУКАЎ БАНАНЫ

Адзін хлопчык вельмі любіў лазіць па дрэвах. Калі ён трохі падрос, у яго спыталіся:

— Чаму ты, як быў малы, лазіў па дрэвах?

— Шукаў бананаў.



## АБАРОНА АД КЕПІКАЎ

Жыў-быў чалавек. Прозвішча яго было Белы. Надаралася, яго зневажалі, крыўдзілі. Але ён на гэта адказваў:

— Чарніце мяне колькі хочаце, але ўсё роўна я застануся Белым.



## КУЛАКІ

Пытаецца хлопчык у дзядулі:

— А чаму кулакоў назвалі кулакамі?

— А ты як думаеш?

— Пэўна, таму, што калі ў іх забіралі маёмасць, то яны кідаліся на тых, хто гэта рабіў, з кулакамі.



## МАРОЗ БЕЗ ЛАНЦУГА

Гукае дзядуля ўнука на вуліцу. Але ўнук пярэчыць:

— Не хачу на вуліцу, там вельмі злы мароз, ён моцна кусаецца.

— Нічога, — жартуе дзядуля, — мы яго на ланцуг пасадзім.



## ЗАВЯЛА

— Колькі на тваім гадзінніку?

— Ды ўжо апоўдні!

— Гэта дакладна?

— Я раніцай звярала, калі заводзіла.

— А ці заўважыла ты, што з самай раніцы ты не толькі гадзіннік, але і мяне завяла?





Сустракаюцца двое знаёмых. Адзін з іх пытаецца:

— Што чуваць? Кабета твая нарадзіла?

— Нарадзіць нарадзіла. Перахрысціла — і назад пусціла.



## ДОЖДЖ, ГРОМ І АГРАНОМ

Неяк раз прыязджае ў вёску якоесь раённае начальства.

— Ну, і які ў вас сёлета ўраджай? — цікавіцца яно. — Ці памог вам наш аграном?

На ўсе гэтыя роспыты вяскоўцы казалі:

— А навошта нам аграном?! Быў бы гной, дождж і гром, дык і само ўсё вырасце. Мы глядзім на неба і робім, што трэба.



## ХЛЕБ У ЦЭЛАФАНЕ

Прыйшоў чалавек у краму купіць хлеб «Водар». Прадаўшчыца ў яго пытаецца:

— Вам у цэлафане ці без?

— А нашто мне цэлафан? Я цэлафан не ем.

А другі пакупнік чуў гэтую размову і кажа:

— А мне ў цэлафане, каб водар па дарозе дадому не вычыхаўся.



## КАБ КАМП'ЮТАР НЕ СПАЎ

— Калі мы паедзем з дачы?

— А калі б ты хацеў?

— Каб як раней.

— А чаму?

— Хачу пагуляць на камп'ютары. Бо калі позна прыедзем, то камп'ютар будзе спаць.



## НЯМА КАМП'ЮТАРА

— Хлопчыкі! — кажа дзядуля сваім любімым унукам. — Зараз канікулы, лета... Мо б вы да мяне з бабуляй паехалі? На вас дома сварацца, вурчаць. І тое не так, і гэта. Рана падымаюць... А ў нас будзеце спаць колькі захочаце. І ніхто на вас голасу не павысіць!

— Не, не паедзем! — кажа меншы.

— А чаму? — здзіўляецца дзядуля.

— А ў вас... камп'ютара няма.



## КАМП'ЮТАР ДАПАМАГАЕ

— Ці дапамагае табе ў чым-небудзь камп'ютар?

— Яшчэ як!

— А ў чым яго табе дапамога?

— Ну, напрыклад, дадуць якоесь заданне дома ці ў школе, а рабіць яго не вельмі хочацца. Тады мама ці тата і кажа: «Не зробіш — камп'ютара не атрымаеш!» І тут хочаш не хочаш, а іхнюю просьбу мусіш выканаць...



## КАМП'ЮТАР-МУТАР

Дзядуля любіў унука, песціў яго. Усюды браў яго з сабою. Усё паказваў, пра ўсё расказваў. Унук таксама любіў дзядулю, але гэтак было толькі да тае пары, пакуль унук не падрос. А як падрос, унук палюбіў камп'ютар. На ўроках не мог дачакацца тае хвіліны, калі зазвініць званок, калі тыя ўрокі скончацца. А як урокі заканчваліся, стрымгалоў ляцеў дадому, дахаты, каб хутчэй той камп'ютар запусціць! Дзядуля ж працягваў думаць пра ўнука, згадваў той шчаслівы час, калі ў іх не было ніякага камп'ютара, калі яны кожную хвілінку вандравалі разам з унукам, захапляліся ўсім жывым. Унук вяртаўся з тых вандровак поўны ўражанняў, пісаў замалёўкі, анекдоткі, жартоўкі, развагі, занатоўваў свае ўражанні. Дзядуля быў самы шчаслівы на свеце чалавек! Унукавы замалёўкі друкавалі ў газетах, часопісах. За яго ўсе радаваліся. І от праходзіць месяц, другі, трэці, а ад унука ні гуку: ні званка, ні смяшынак, ні замалёвак. Як карова ўсё языком злізала. Хоць бы што цікавае пра той камп'ютар напісаў! Дык і таго няма.

— Пра камп'ютар нічога цікавага! — кажа ён. — Камп'ютар-мутар цікавы толькі тады, як на ім гуляеш, пакуль з ім гуляеш. А выключыў — і ўсё, нічога ні ў галаве, ні ў сэрцы не застаецца!

Амін!



## Слугі

Па гарадской вуліцы шыбаваў жвавы гурт хлапчукоў-падлеткаў. Яны весела між сабою гаманілі. Раптам у аднаго з іх штось выпала на ходнікі. Калі мы параўняліся, я і кажу:

— Хлопчыкі, вы нічога не згубілі?

— Згубілі, — кажа адзін, азірнуўшыся, — рукавічку.

Але азірнуцца азірнуўся, але па тую рукавічку не пайшоў. Пытаюся:

— Чаму? Гэта ж зусім недалёка! Вярніся!

— Ат! — адмахнуўся той. — За намі нашы настаўніцы ідуць. Гэта нашы слугі. Яны і прынясуць!



## Чаму няма смяшынак?

— Апошнім часам ад цябе, Сержык, няма ні смяшынак, ні анекдотак, ні досціпаў якіх... Ці ты развучыўся слухаць? Ці ў вас у школе нічога смешнага не бывае?

— Я зараз, дзядулька, больш нічога не чую, толькі маты. Што ні слова, то мат.





— Прывітанне! Што новага ты мне прынёс?

— Нічога няма...

— А чаму ж? Калі меншы быў, дык шмат чаго здаралася.

— Калі меншы быў, дык і школы менш было.



## З РАЗМОВЫ З ДЗЯДУЛЕМ

— Некалі ты пісаў вершы, і не благія.

— Больш не пішу.

— А чаму?

— Як у школу пайшоў, шмат вершаў пачалі задаваць вучыць на памяць. Мне зрабілася шкада вучняў, і я перастаў пісаць вершы…

— А што ж ты зараз пішаш?

— Больш гумарэскі, смяшынкі.



## І СЛУХАЦЬ НЕ БУДУ...

— Ёсць людзі, якія не любяць жартаў, досціпаў, анекдотак, — кажа адзін.

— Не можа такога быць! — пярэчыць другі.

— Колькі хочаш! От, паслухай... Стаю я з кніжачкамі сваімі ў Купалавым парку. Прапаную набыць «Умей слухаць». Хто набудзе, хто так пагартае, паглядзіць. І за тое дзякуй! Але адзін такі сустрэўся — не тое што набыць, але пагартаць, паглядзець не жадаў, не хацеў. Тады я яму: «Не хочаце пагартаць, паглядзець, дык хоць паслухайце». І хацеў колькі жартовак яму распавесці. А ён: «І слухаць не буду... Наслухаюся, у галаву залезе».



## ХЭНДЭ ХОХ!

Адзін чалавек, калі хацеў кагосьці збянтэжыць, звычайна на «Дзень добры» казаў:

— Хэндэ хох!

На гэта сваё «Хэндэ хох» пачуў раз:

— Я шчэ не здох!





Скардзіцца маці дачцэ:

— Колькі гадоў мы пражылі, а ніколі не было так скупа на грошы, як сёлета.

— А куды ж вы іх дзеяце?

— На кніжачку.

— А, зразумела. Кладзяце грошы на яе, ды яшчэ і скардзіцеся.

— Ды не на тую, якая з працэнтамі, а на тую, якую пішуць і друкуюць!



## ХТО ЯК СТАРЫ ГОД ВЫГАНЯЎ

Размаўляюць двое:

— Ты Новы год сустрэў?

— Сустрэў.

— А як стары выганяў?

— Як-як... З дываноў стары пыл выбіваў, от так і выганяў.

— А я петардамі стары год закідаў.

Падыходзіць трэці і кажа:

— А я ў яго коркамі з-пад шампанскага страляў.



## ПОШТА «ХВОСЦІК» ЗАБЯРЭ

— Ты ганарар атрымліваеш?

— Атрымліваю.

— А колькі?

— Тысячу з хвосцікам. Але калі па пошце прышлюць, то хвосцік знікне.

— Чаму?

— Пошта хвосцік забярэ…



## КРОПКА — ЯК КНОПКА

Неяк Сержык чытаў штось, дачытаў да канца і сказаў: «А ведаеш, дзядуля, кропка ў сказе, як тая кнопка: паставіш кропку — і сказ нібы прышпілены да паперы, як кнопкай прыціснуты. Далей без паўзы ні кроку». Мне спадабалася гэта Сержыкава выслоўе, ягоная афарыстычнасць, вобразнасць, і я прапанаваў унуку прыдумаць і пра іншыя знакі прыпынку што-кольвек такое, як пра кнопку. І от што ў нас з ім атрымалася.

Кропка — як тая кнопка.
Клічнік — як той апрычнік.
Пытальнік — цікаўных задавальняльнік.
Шматкроп'е — з зярнятак укроп'е.
Працяжнік — думак сцяжнік.
Злучок — між словамі масток.
Дужкі — моўныя вушкі.
Лішняя ў сказе коска,
што ў горле з рыбы костка.
А сама мова — усяго аснова.



## ЖМЕНЬКА АФАРЫЗМАЎ І ПАМОВАК ПРА ГУМАР

Гумар у народа — неад'емная сфера яго духоўнага жыцця. Таму пра гумар жыве нямала памовак. Згадаем некаторыя з іх, якімі пашчасціла нам узбагаціцца.

Ад смеху жываты панадрывалі.
Заходзіцца ад смеху (з смеху).

Дасціпныя добрыя жарты здароўя варты.
Добры жарт гонару варт.
Калі смяецца дзіця, і неба ўсміхаецца.
Курам на смех. Куры засмяюць. Куры будуць смяяцца.
Лепш жартаваць, чым гараваць.
Смех — дар Божы.
Смех — не грэх.
Смех дый годзе.
Смех — здароўя мех.
Смейся, хоць трэсні, толькі есці не прасі.
Смяяцца — пры здароўі застацца.
Смех, смяшынкі — для здароўя аскарбінкі.
Смех смехам, а жарты ўбок.
Смеху, жартаў толькі той не баіцца, хто ўжо нічым не дзівіцца.
Смяяўся лысы з пляшывага.
Хто жартуе, смяецца, той гору не паддаецца.
Хто жартуе і смяецца, таму ўсё ў жыцці ўдаецца.
Хто жартуе, той ніколі не бядуе.

Весялосць, дасціпнасць заўсёды вылучаліся сярод іншых рыс характару, і часцяком якраз яны падказвалі, якой мянушкай узнагародзіць земляка.

У нас, прыкладам, аднаго Івана па прозвішчы і не звалі, толькі Іван Смяхун. Што б ні гаварыў, што б ні рабіў — усё ўсміхаецца. Усмешка проста гуляла на яго-ных вуснах і знікала дзесь у ротавых куточках. А замест адной усмешкі ўзнікала другая.

Жыхароў Астрашыцкага гарадка шмат гадоў забаўляў Самуіл. Надта ж ён вясёлым быў. Бывала, ускочыць на сцэну ці на які грудок, ускіне руку і дэкламуе: «Няхай жыве Галіца, Брадок і Астрашыцкі Гарадок!» (Галіца і Брадок — вёскі ля Астрашыцкага мястэчка.)

Сябе ён называў Самуіл Пацеха. Не ведаем, ці гэта яго такое было прозвішча, ці то сабе такую мянушку прыдумаў. Але ён і напраўду быў чалавек пацешны.

От ад такіх людзей, як гэтыя, мы і пачулі самыя розныя досціпы, смяшынкі, анекдоткі. То асалоды і вам!

---

Маю першую кніжачку гумару «Умей слухаць» суправаджаў эпіграф: «Гарэлкі не п'ю, цыгарэтаў не смалю, а за гэтыя грошыкі кніжачкі выдаю». Разам з гэтай інфармацыяй быў зварот да чытачоў і Бога: «Спрыяй мне, Божа, і надалей, і вы, добрыя людзі, таксама». І гэты мой зварот быў пачуты і Богам, і людзьмі. З людзей хацеў бы згадаць Святлану Багданкевіч, яе сяброўку Людмілу Ліцвінаву, Надзею Сарамант, Антаніну Кавалёву, Сталіну Навіцкую-Караткевіч, Разалію Федасюк, Элу Оліну-Гарэцкую, Генадзя Мяцеліцу, спадара Каралькова... Усе яны паспрыялі нам фінансава, каб мы з Сержыкам змаглі выдаць свае анекдоткі. Пачуў мой голас і Бог. Аднаго разу выйшаў з дома на ранішні мацыён. Іду гэтак ля метро «Усход» і бачу: ляжыць просценькі, прытаптаны нагамі канверт. Дай, думаю, пагляджу, што там. Ува мне спрацаваў даследчыцкі і, у нейкай ступені, дэдуктыўны інстынкт. Зазірнуў у той канверт, а там, як з неба зваліліся, пяцьсот тысяч рублёў. То і яны пайшлі на выданне гэтай кніжачкі.

Так што чуйце мяне, людзі, і надалей. І ты, Божа, таксама. Балазе наступную сваю кніжачку — «Народныя апавяданні» — таксама плануючы выдаць у нашым слаўным «Кнігазборы».

*Уладзімір Содаль*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# АНЕКДОЦІК У РОЦІК

Смяшынкі, жартоўкі, анекдоткі, досціпы ў запісах
і апрацоўцы Уладзіміра Содаля і яго ўнучка Сержыка

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Набор і вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 2.10.2008. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Гарнітура Arial. Ум. друк. арк. 3,99.
Ул.-выд. арк. 1,25. Наклад 500 ас. Зак. 1156.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні
ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.